(манастырскіх, царкоўных і касьцельных), будучы пераконаны, што правільнае правядзеньне зямельнай рэформы можа быць вырашана Краёвымі Соймамі Украінскім і Беларускім“. Падпісалі: А. Васыньчук, В. Рагуля.

# Запытаньне

да Польскага Ураду ад дэпутатаў Украінскага Пасольскага Клюбу ў справе катаваньня паліцыянтамі сялян вёскі Любашчы Ровенскага павету а таксама ў справе забойства інваліда Дзяніса Сывука.

З прычыны зусім ненармальнага вырашэньня справаў аб пасцьбішчах ў скарбовых лясох на Валыні і Палесьсі, сяляне прымушаны ратавацца і часамі самавольна пасьвяць жывёлу сваю ў тых лясох. Да гэтага змушаюць сялян самі надлясьнічыя, адхіляючы большую частку просьбаў сялян аб дазволе на пасьцьбішча.

Дзеля прыкладу далучаем гэткі факт: на вёску Карнева, Мірацкай гміны, Дубенскага павету налажыла Міласьціўскае Лясьнічства штрафу 1.300.360.000 мар., што выносіць па 40.000.000 марак за адну карову. Вёска Карнева бедная, сяляне ў большай частцы малазямельныя, і гэткі штраф, калі ён будзе праведзены ў жыцьцё, зусім зьнішчыць матарыяльны дабрабыт вёскі і вясковае жыхарства прымушана будзе шукаць помачы ужо не ў уладаў. Катуюць сялян за пасьцьбу жывёлы нават ў тых лясох, у якіх яна пасьвілася з найдаўнейшых часоў.

Гэты зьдзек адміністрацыі над люднасьцю прыймае разьмеры нябывалыя да гэтага часу і нячуваныя ў сьвеце, а іменна: ў вёсцы Любашчы, Кастопальскай гміны, Ровенскага павету, на Валыні, 14 ліпеня бягучага году, надлясьнічы скарбовага лесу, даведаўшыся аб тым, што сяляне пасуць свае авечкі і скаціну ў лесе, паклікаў лясьнікоў і паліцыю і з імі паехаў ў лес „паляваць на людзей“. Успомненыя асобы, пазганяўшы авечак і скаціну ў адно стада, пачалі заганяць у будынкі лясьнічага. Гаспадары забранай праз лясьнічага скаціны зьвярнуліся да яго з просьбай, каб не забіраў жывёлы, абяцаючы заплаціць штраф, які вызначыць суд. Паліцыя і лясьнікі на гэта адказалі: „разайдзецеся, бо будзем страляць!“ Перапалоханыя сяляне за страхам разьбягаліся, а адзін з іх, Дзяніс Сывук, інвалід, застаўся на месцы. Тады адзін з паліцэйскіх падыйшоў да Сывука, прыставіў яму да грудзей стрэльбу і сказаўшы: „я цябе застрэлю, як сабаку“, выстраліў і забіў Сывука адразу. Пасьля нябошчыка засталася сям'я з дзевяцёх асоб бяз ніякіх спосабаў да жыцьця.

Перапалоханы сваім агідным забойствам, паліцэйскі кінуў стрэльбу пры нябошчыку і ўцёк, а таксама разьбягаліся й усе лясьнікі. Праз два дні насьля гэтага ў вёску Любашчы прыехаў камэндант пастарунку дзяржаўнае паліцыі разам з колькімі паліцэйскімі і распачаў сьледзтва, кіруючы яго такім чынам, каб усю віну за забойства зложыць з паліцэйскага на сялян з Любашчы. Сказаўшы напачатку сьледзтва сялянам: „усіх вас трэба растраляць“, пан камэндант ніякіх пытаньняў не даваў і запісаў толькі наказаньні лясьнікоў, якія былі сьведкамі забойства. Пасьля гэтага п. камэндант арыштаваў васемнаццаць сялян, мужчын і жанчын, якіх прыехаўшыя разам з п. камэндантам паліцэйскія страшэнна пабілі, а пасьля адправілі ў вастрог у Роўне. Арыштаваны і цяжка пабіты паліцыяй вось гэткія асобы: Аляксандар Котляк, Павал Старожук, Асміла Шугай, Калістрат Котляк, Сымон Ярмалюк, Аўсей Цімашчук, Калістрат Позьнякоўскі, Мікіта Кухарчык, Андрэй Шугай, Астап Пазьнякоўскі, Марцін Тымашчук, Протас Мацюк, Апанас Сывук, Грыгор Мацюк, Мар'я Шугай, Хвядора Котляк і інш.

Сьледавацель Ровенскага павятовага Вокругу, які прасочыў справу, аддаў яе п. Пракурору Акружнага Суду ў Роўне, каб ен спыніў яе. Арыштованыя і пабітыя сяляне дагэтуль сядзяць у вастрозе, а паліцэйскі-забойца, а таксама іншыя прадстаўнікі дзяржаўнай паліцыі далей спаўняюць свае абавязкі.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя падаюць:

Высокі Сойм хай пастановіць:

Загадываецца Ураду

1) каб неадкладна прасочыў справу крывавых падзей у вёсцы Любашчы, Ровенскага пав., ды пацягнуў да строгай адказнасьці вінаватых прадстаўнікоў дзяржаўнай паліцыі.

2) каб даў адпаведную грашовую компэнсацыю для сям'і забітага паліцэйскім Дзьмітра Сывука.

3) каб зволыніў сялян з вастрогу.

4) каб даў загад адміністрацыйнай уладзе і паліцыі быць зусім безстароннымі ў эканамічных непаразуменьнях і наагул ува ўсякіх здарэньнях, якія могуць распаляць палажэньне справы.

# З газэт.

## П. Обст аб „zasadniczych prawach mniejszości narodowych“.

Орган мясцовых готэнтотаў „Dzien. Wil.“ піша з абурэньнем аб тым праекце, які літоўскі ўрад падаў у асьветную камісію Ковенскага Сойму.

Праект гэты, кажа заходня-крэсавы Обст, вымагаў, ня больш ня менш, як таго, каб у склад асьветных камісіяў самаўрадаў ад нацыянальных меншасьцяў не ўваходзіла больш, як адна траціна прадстаўнікоў.

Гэты праект у камісіі быў прыняты галасамі блёку літоўскіх „хадэкаў“ проці людоўцаў, сац.-дэмакратаў і нацыянальных меншасьцяў...

Гэтыя меншасьці, якіх прадстаўлялі ў камісіі паслы—паляк і немец, падалі у Сойм гарачы пратэст, кажучы, што гэты праект стаіць настолькі ў супярэчнасьці з Літоўскай Канстытуцыяй, што ня можа нават абгаварывацца ў камісіі Сойму.

Пасьля гэтага дэлегацыя ад ўсіх меншасьцяў Сойму пашла да прэзэса міністраў п. Гальванаўскаса, які зараз-жа загадаў, як падае орган мясцовых літвінажорцаў, узяць урадовы праект з Сойму назад...

„Які лёс спаткае гэты нячуваны праект („niesłychany projekt“) у далейшым, яшчэ няведама, канчае п. Обст...

„Niesłychany?“—Дзе?—у Літве?..

А—ці-ж ня чуў п. Обст аб гэткім самым, калі ня горшым праекце ў Польшчы?.. Ці-ж ня чытаў п. Обст таго, што пісаў аб гэткім самым праекце п. І. О. ува ўласнай газэце п. Обста, ці—п. Cat у віленскім „Слове“?!

І—як п. Обст думае?—калі-б напрыклад дэлегацыя ад нацыянальных меншасьцяў у Польшчы пайшла да прэзэса польскіх міністраў, да п. Вітаса, дык ён узяў-бы назад такі самы „niesłychany projekt, zwężający zasadnicze prawa mniejszości narodowych“ — „wbrew Konstytucji“.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

**Звальненьне грам. Язэпа Лагіновіча.** Рэдактар зачыненай уладай часопісі „Вольны Сьцяг“, Язэп Лагіновіч, аб арышце якога было надрукована ў № 1 „Змаганьня“, выйшаў з вастрогу пад залог у суме 30 міліёнаў польскіх марак.

25 гэтага кастрычніка адбыўся сход гуртка беларускіх кабет пры камітэце помачы ахвярам вайны. Закрануты былі пытаньні аб арганізацыі дапамогі беларускаму прытулку, аб пляне працы на будучыну і інш.

Вучні старшых клясаў Віленскай духоўнай сэмінарыі дабіваюцца увядзеня ў іх беларускае мовы.

Студэнты-беларусы Віленскага універсытэту Стэфана Баторага рыхтуюцца да выданьня свайго журналу.

Гурток беларускіх кабет рыхтуецца да вечарыны на карысьць беларускага прытулку ў Вільні.

22 гэтага месяцу ў Віленскім акружным судзе адбыўся суд над старшынёй беларускага музыкальна-драматычнага гурта С. Валэйшам і сакрэтаром П. Біньдзюком абвінав. па 154 ст. К. К. Паказаньнямі сьведак было сьцьверджана выкіданьне беларусоў са службы, пацкіданьне беларускім дзеячам камуністычнае літэратуры. Спусканьне паліцыі з верхняго паверху на ніжні. Пастановаю суда абое абвінавачаных прыговораны на 4 дні арышту кожны. Але дзякуючы амнэстыі ад кары абвінавачаныя звольнены.

Вышлі з друку і прадаюцца ў Беларускай Кнігарні (Завальная 7) гэткія кнігі: Алёнчына вясельле А. Зязюлі, Алеся—Купрына, Вялікая Пышка Я. Нарцызава і Навука Сьпеву А. Грыневіча.

— „Цантральная Беларуская Школьная Рада гэтым абвяшчае сяброу Таварыства Беларускае Школы, што ёю склікаецца агульны сход сяброу Т-ва на 1-е лістапада (чацьвер) 1923 г. у г. Вільні, у памешканьні Школьнай Рады (Віленская № 12), а 11 гадзіне дня.

Калі на азначаную гадзіну не зьбярэцца установлены лік сяброу, сход адкрыецца на 1 гадзіну пазьней і будзе лічыцца правамоцным бяз увагі на лік прыбыушых на гэтую гадзіну сяброу (§ 34 статуту Т-ва)“.

Віцэ-Старшыня **Антон Луцкевіч.**

За Сэкрэтара **А. Грыневіч.**

## Весткі з вёскі.

**Залесьсе**, Дзісенскага павету.

У чэрвені месяцы гэтага году ў нашай гміне адбыліся выбары заступніка войта. Гмінная Рада ўхваліла на пасаду заступніка войта Рыгора Бабіча, сьвядомага беларуса, вучыцеля і коопэратыўнага працаўніка. Ня гледзячы на тое, што згодна з гмінным уставам, выбары павінны быць зацьверджаны праз два тыдні, зацьверджаньне гэта цягнулася бадай што тры месяцы, пакуль ня прышла з староства паперка, якою выбраы гэтыя касуюцца на падставе таго, што ня выпаўнены фармальнасьці. Атрымаўшы паведамленьне з староства, гмінная рада зноў выбрала Рыгора Бабіча заступнікам войта і, здаецца, што ўсе фармальнасьці, якія толькі былі патрэбны, выпаўніла пунктуальна. Ці доўга прыдзецца чакаць зацьверджаньня — ня ведама. Але беднаму Бабічу дык зусім кепска. У першае зацьверджаньне яго цягалі і ў гмінны пастарунак паліцыі і ў павятовую паліцыю, дзе ўсё дапытываліся да якое беларускае партыі ён належыць. Як відаць, нават слова „беларус“ не дае спакойна спаць гміннай і павятовай паліцыі. **М.**

# Беларусы у Амэрыцы.

(Ад уласнага карэспандэнта).

**Прыезд Я. Варонкі ў Амэрыку.**

Вядомы беларускі дзеяч Язэп Варонка, выехаўшы праз Парыж з м. Гаўра 24 верасьня на параплаве „Paris“ 1 кастрычніка высадзіўся ў Нью-Йорку і 2 кастрычніка прыбыў у Чыкаго. На вакзале Язэпа Варонку спаткалі: Старшыня Беларускага нацыянальнага Камітэту ў Чыкаго Антон Змагар, Сэкрэтар П. Міхайлоўскі і Галоўны пісар Беларускага Народнага Таварыства Янка Жукаў, Фінансавы Сэкрэтар Міхась Лукашэвіч і шмат іншых прадстаўнікоў мяйсцовай Калёніі. У тойжа самы вечар Язэп Варонка інфармаваў Б. Н. Камітэт аб становішчы беларускай справы на Бацькаўшчыне. **Я. Н—скі.**

# Пісьмо з Амэрыкі.

**У Віленскі аддзел Параходнага т-ва „Red Star Line“ Вялікая вул.. № 80.**

Паважаны п. Качэргінскі!

Шчыра Вам дзякую за ўсё тое, што вы зрабілі дзеля мяне і маёй жонкі па адпраўцы нас назад у Амэрыку. Ехалі мы на параходзе т-ва „Red Star Line“ я ў III клясе, а жонка мая ў II клясе, з Антвэрпэна ў Амэрыку. Ехалі мы на параходах розных т-ваў але болей усяго мы здаволены падарожай на параходзе т-ва „Red Star Line“. Найболей выгад пасажырам дае Віленскі аддзел „Red Star Line“ пад кіраўніцтвам п. Качэргінскага.

Я раджу і рэкомэндую ўсім маім землякам, як тым, якія зьвяртаюцца, так і тым, якія едуць у першы раз, зварочывацца ў Віленскі аддзел т-ва „Red Star Line“: кожны застанецца задаволеным таксама, як я і мая жонка.

З вялікаю пашанай інструктар самакатаў
**Хвёдар Дзядулевіч**
**жонка Паўліна Дзядулевіч.**

9/21—1923 г.
Detrait. Mich. U. S. A.



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.